

## ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# РАСЕЯ АДВЯРГАЕ КАМУНІЗМ, АЛЕ ЗАСТАЕЦЦА ІМПЕРЫЯЙ

**У большасьці міжнародных падзей адначасова прысутнічае і нешта добрае, і нешта кепскае. Так і вынікі выбараў у Расеі маюць для Беларусі, як станоўчыя, так і адмоўныя бакі. Добрае (можа, нават, вельмі) тое, што ў гэтым годзе ня толькі албанцы да мангольцы, але яшчэ і значная частка насельніцтва нашай вялікай усходняй суседкі прадэманстравала разуменьне, што шлях, па якім прапануюць ісьці камуністы, гэта шлях у нікуды, што карумпаваны і ў пэўнай ступені злачынны рэжым Ельцына -гэта меншае зло, чым вяртаньне ў камуністычны "рай".**

Цяпер у паўночным паўшар'і камуністычныя рэжымы застаюцца на Кубе, дзе месячны даход на аднаго жыхара складае каля 7$, і ў Паўночнай Карэі, дзе дажыліся да галадухі. Трэцяй краінай з аўтарытарна-камуністычным рэжымам застаеццца наша родная Беларусь.

Хоць цяперашняе кіраўніцтва фармальна і адмяжоўваецца ад камунізму, але, па-першае, на Беларусі каля рэальнай улады дэмакратаў не было, а па-другое, нашае цяперашняе кіраўніцтва праводзіць тыповую камуністычную палітыку ва ўсіх сьферах грамадзкага жыцьця. Так, замест разьвіцьця рынкавых адносін, адбываецца разбурэньне банкаўскай сістэмы, згортваньне прыватызацыі, абмяжоўваецца свабода гандлю. Замест дэмакратычных выбараў - фальсіфікацыя, выкарыстаньне сродкаў масавай інфармацыі (асабліва электронных) не для тлумачэньня праграмных палажэньняў асноўных палітычных партый, а для грубага замбіраваньня, накіраванага супраць прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычных сіл. Замест свабоды слова, мітынгаў і дэманстрацый - закрыцьцё апазіцыйных газет, дубінкі, сьледчыя ізалятары, турмы. Класічна-камуністычныя выверты назіраюцца і ў сьферы ідэалогіі правячага рэжыму. Так, патрыёты сваёй Бацькаўшчыны абвяшчаюцца "нацыянал-фашыстамі", расейскія шавіністы ды імперыялісты, якія вось-вось ператворацца (у Чачні ўжо ператварыліся) у сапраўдных фашыстаў, называюцца "інтэрнацыяналістамі". У дадатак да ўсяго, замест беларускіх нацыянальных сімвалаў у якасьці дзяржаўных выкарыстоўваюцца камуністычныя.

Але найгоршае ня гэта. З камунізмам мы б як-небудзь справіліся. Намнога горш тое, што расейскія выбары выдатна прадэманстравалі, што ў намерах праводзіць імперскую палітыку ў дачыненьні да суседзяў Расеі не было выразнай розніцы ня толькі паміж двума асноўнымі канкурэнтамі, але і бадай што паміж нікім сярод усіх 11 прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду. Іх упэўненасьць у тым, што краіны былога СССР павінны знаходзіцца ў сьферы "расейскіх інтарэсаў" (чытай, падпарадкоўвацца дыктату Масквы), была практычна адзінадушная. Такім чынам, Расея па-ранейшаму кіруе свой позірк ня ўнутр сябе, а за свае межы, дзе спрабуе шукаць вырашэньня сваіх унутраных праблем. Расейцам унушаюць: вось, адновім Расею ў межах былога СССР і ўсе праблемы вырашацца. На самой справе ўсе замежныя аналітыкі сыходзяцца на думцы, што ўнутрырасейскія праблемы ад такога "рашэньня" будуць толькі нарастаць.

У сувязі з гэтым даводзіцца яшчэ і яшчэ паўтараць: усе праблемы Расеі абумоўлены тым, што гэта - імперыя. І як для любой імперыі, так і для Расеі, характэрна невырашальная супярэчнасьць паміж неабходнасьцю дэмакратыі (для свайго разьвіцьця) і моцнай цэнтралізацыі, а з ёю і моцнай бюракратычнай сістэмы (для захаваньня сваіх межаў). Наяўнасьць такой супярэчнасьці азначае, што гэтую краіну, як і раней, будуць чакаць унутраныя патрасеньні, у канцы якіх - развал, а кожны асобна ўзяты сярэднестатыстычны жыхар ніколі не займее спакою і дабрабыту. Становіцца ўсё больш відавочным, што і камунізм, і сёньняшні псеўдадэмакратызм - гэта толькі формы існаваньня ўсё той жа імперскай Расеі, калі жадаеце - спосабы прыкрыць яе імперскую сутнасьць і затрымаць распад.




Усё гэта разумеюць кіраўнікі ўсіх сумежных з Беларусьсю краін - Польшчы, Літвы, Латвіі і, нават, Украіны. І тое, што ня гледзечы на свае ў асноным камуністычныя карані ўсе яны імкнуцца ў НАТА (каб абараніць іх дзяржавы ад "расейскіх інтарэсаў"), яшчэ раз яскрава пацьвярджае, што асноўнай праблемай сучаснасьці зьяўляецца не камунізм, а расейскі імперыялізм. Таму першым крытэрыем для характарыстыкі кіраўніцтва той альбо іншай краіны становіцца ня тое, камуністычнае яно ці дэмакратычнае, а патрыятычнае яно ці антынароднае.

Расейскія прэзідэнцкія выбары даюць дадатковую нагоду яшчэ раз з прыкрасьцю ўзгадаць, што правячы на Беларусі рэжым, выконваючы ўсе пажаданьні "старэйшага брата", ужо два гады праводзіць прарасейскую, праімперскую і антынародную палітыку. Метадычна ідзе барацьба супраць беларускай эканомікі, супраць беларускай культуры і мовы, супраць нацыянальнай сістэмы адукацыі. Усе галоўныя расейскія тэлеканалы, пакрываючы ўсю тэрыторыю Беларусі (зьвярніце ўвагу, такога і блізка няма ні з Польскім, ні з Украінскім тэлебачаньнем), прымушаюць нас жыць праблемамі жыхароў іншай краіны, мець не сіметрычны геапалітычны сьветапогляд, а скасабочаны ва ўсходнім накірунку. У адпаведнасьці з ідэалагічнымі арыентыроўкамі, як называе сучаснае беларускае кіраўніцтва, нашымі сапраўднымі "братамі-славянамі" становяцца толькі рускія, а, напрыклад, палякі і украінцы, гэта, як быццам бы, ня толькі не браты, але і не славяне. Хаця кожнаму інтэлегентнаму беларусу вядома, што украінскі народ у біялагічным і культурным сэнсе найбольш блізкі да беларускага, а польскі - ня менш блізкі, чым расейскі.

Адсюль становіцца відавочна, што на сёньня асноўнай пагрозай для свабоднага разьвіцьця, як усёй беларускай нацыі ў цэлым, так і кожнага жыхара суверэннай беларускай дзяржавы зьяўляецца расейскі імперыялізм. Праблема суверэнітэту Беларусі не абстрактна палітычная, а рэальная, жыцьцёвая, бо яна закранае галоўныя інтарэсы кожнага жыхара Беларусі. Яе сутнасьць у тым: ці будзе беларускі народ гаспадаром на сваёй Богам дадзенай зямлі, ці ён і яго нашчадкі будуць парабкам ў чарговага пана з Захаду, ці чарговага хама з Усходу.

**АЛЕСЬ АСТРОЎСКІ.**

# ЭЛЕКТАРАТ "МАЛЮЕ ПАРАЛЕЛІ"

**У Інтэрв`ю карэспандэнту "Інтэрфакса" пад назвай "Уся дзейнасьць БНФ цяпер накіравана на сатанізацыю грамадзтва" ("Звязда", 20.06.96) памочнік Прэзідэнта Сяргей Посахаў адзначыў, што абсалютная большасьць насельніцтва рэспублікі на выбарах Прэзідэнта падтрымала ягонага шэфа: курс на інтэграцыю з Расеяй і іншымі рэспублікамі былога СССР, на барацьбу з карупцыяй, на спыненьне крымінальнай "прыхватызацыі", але БНФ і яго лідар З.Пазьняк замінаюць выконваць праграму, дэстабілізуючы абстаноўку.**

Хачу адзначыць, што пункты аб інтэграцыі, барацьбе са злачыннасьцю былі ў праграме В.Кебіча. Тут розніцы паміж Лукашэнкам і Кебічам няма. Успомніце, у тэледэбатах перад другім турам выбараў Лукашэнка дакараў Кебіча, што той ня здольны пераадолець цяжкасьці з рэалізацыяй гатовай прадукцыі ў Расею, а вось у яго гэта атрымаецца лепей. Кебіч, здаецца, тройчы задаваў пытаньне Лукашэнку, якім чынам ён гэта зробіць, але канкрэтнага адказу не атрымаў. Зразумела, не атрымалі яго і выбаршчыкі.

Такім чынам, канкрэтнай праграмы эканамічнай інтэграцыі ў Лукашэнкі не было, выбаршчыкі пра яе ня ведалі, а таму не маглі за яе галасаваць, але галасавалі за Лукашэнку. Чаму? Дзякуючы ачмурэньню "простых людзей" антыкарупцыйнай хваляй. Людзі не пасьпелі задумацца над тым, дзе ж быў Лукашэнка да антыкарупцыйнага дакладу, а чаму ж не чуваць было яго змаганьня з гідрай карупцыі ў папярэднія гады і ці заслугоўвае ён па гэтай прычыне даверу? Ачмурэньне дадаў "ліёзненскі самастрэл", валтузьня з міліцыяй ля "антыкарупцыйнага" кабінету, ды нарэшце "цукеркі сьцюардэсы" і абяцаньне судзіць Кебіча.

Вось і ўсе выбарчыя аргументы. Перамагла не праграма, а антыкарупцыйны папулізм.

Што мы маем па інтэграцыі з Расеяй? Посахаў у сваім інтэрв'ю падкрэсьлівае, што інтэграцыя ў асноўным накіравана на абарону прыватных інтарэсаў грамадзян: абмен кватэр, атрыманьне адукацыі, лячэньне. Братцы вы мае, а дзе ж эканоміка? Дзеля чаго мы два гады пасьля выбараў церпім стабільнае зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўня? Вось з гэтай прычыны і пашыраецца хваля пратэсту, што сп. Посахаў называе "сатанізацыяй грамадзтва", як вынік працы адміністрацыі Прэзідэнта.

Сп. Посахава абурае таксама той факт, што нейкі выкладчык ВНУ маляваў перад студэнтамі схемы-паралелі паміж дзяржаўнымі сістэмамі гітлераўскай Германіі і сучаснай Беларусі. Я асабіста ня ведаю такога выкладчыка, але і без яго тыя паралелі бачу (незаконнае затрыманьне дэпутата Вярхоўнага Савету П.Знаўца, абстрэл аўтамабіля дэпутата Вярхоўнага Савету В.Ганчара, спроба работнікаў міліцыі прыцягнуць да адказнасьці глуханямога студэнта, які "выкрыкваў антыўрадавыя лозунгі", зьбіцьцё спецназам і захоп выпадковых прахожых у Менску пад час падзей 30 траўня, выкарыстаньне меры стрыманьня да В.Сіўчыка і Ю.Хадыкі ў выглядзе зьняволеньня, хаця інкрымінуемыя ім дзеяньні ў лепшым выпадку "цягнуць" на стрыманьне ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і г.д.). Я мяркую, такое магчыма якраз толькі ў краіне, "паралельнай" фашыстоўскай Германіі. Ды і прэзідэнт неяк выказаўся ў падтрымку парадку гітлераўскай Германіі. Таму нічога дзіўнага ў тым, што і электарат разам з прэзідэнтам "малюе паралелі".

Далей сп. Посахаў кажа, што выкладчыкі, якія заклікаюць студэнтаў удзельнічаць у дэманстрацыях, забываюць, што расейская інтэлегенцыя, якая заклікала ў 1905 годзе да зьвяржэньня самадзяржаўя, у хуткім часе аказалася ў турмах. Дык хто яе туды пасадзіў, сп. Посахаў? Тое ж самадзяржаўе. Таму намёк зразумелы: сп. Посахаў не выключае, што існуючы рэжым за вольнадумства перасодзіць і нашу інтэлігенцыю.

А вось прыклад сп. Посахава з тым, што германскія сацыял-дэмакраты, якія ў свой час падтрымалі Гітлера, аказаліся ў выніку ў канцлагерах, датычыць рэальна нашых выбаршчыкаў у цэлым, а ня толькі інтэлегенцыі. Бо з кожным днём усё больш у нашым рацыёне зьяўляецца баланды.

У інтэрв'ю сп.Посахаў называе нацыянал-радыкалаў (відаць, у тым ліку БНФ, бо лічыць яго кіраўніком праварадыкальнай апазіцыі) пасьлядоўнікамі арганізацый, якія паявіліся пад кіраўніцтвам і апекай гітлераўскіх акупантаў. Тут ён выкарыстаў хлусьню, разьлічаную на прававую неадукаванасьць насельніцтва. Калі б такія прыкметы былі ў БНФ як арганізацыі, яго б нават не зарэгістравалі ў Мінюсьце, бо ўсё зьвязанае з фашызмам забаронена. Як кажуць, у Замяталіна "видит око, да зуб не ймет". Прыйдзе час, адкажа за зьнявагу БНФ і сп. Замяталін. Спадзяюся, Беларусь перажыве перыяд безадказнасьці бяздарнага кіраўніцтва.

Увогуле, нічога новага ў тым, што нейкі прывазны Краснадарскі чалавек змагаецца з беларускім адраджэньнем. Як заўважае сп.Замяталін, значную частку паліцаяў у час Вялікай Айчыннай вайны немцы прывозілі з іншых рэспублік. А зараз вось і Лукашэнка ня можа абысьціся без прывазных.

**Алесь ДЗЕРГАЧОЎ.**

# ЗА ДЭМАКРАТЫЮ НАВАТ ЖАБРАКІ

"Нават даведзеныя да паўгалоднага стану людзі ў расейскай глыбінцы аддалі свае галасы за працяг дэмакратычных, рынкавых рэформаў у Расеі. Гэта азначае, што ў Расеі і надалей будзе працягвацца будаўніцтва прававой дзяржавы, разьвівацца сістэма мясцовага самакіраваньня." Так на сустрэчы з старшынямі гарадзкіх і раённых саветаў Гарадзеншчыны пракаментаваў вынікі прэзідэнцкіх выбараў ў Расеі сябра Прэзідыуму Вярхоўнага Савету Беларусі Сямён Домаш.

Яскравым сьведчаньнем дэмаратычных пераўтварэньняў у суседняй дзяржаве, на думку сп. Домаша, стаў і той факт, што нават у самыя крытычныя моманты передвыбарнай кампаніі Барыс Ельцын ні разу не замахнуўся на прэсу.

**Вітаўт РУДНІК.**

# ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ МОЖА АДБЫЦЦА ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

**8 ліпеня ў Беластоку Беларускі Саюз у Рэчы Паспалітай, у склад якога ўваходзяць 7 арганізацый польскіх беларусаў, правёў сход.**

**Найбольш эмоцый на ім выклікала абмеркаваньне прапановы беларусаў Амерыкі - правесьці ў наступным годзе зьезд беларусаў сьвету ў Беластоку.**

Пасьля вясновых падзей у Менску, беларуская эміграцыя ня хоча кантактаваць з сёньняшнімі ўрадавымі арганізацыямі на Беларусі.

Сход абраў камісію, якая павінна апрацаваць канцэпцыю будучага зьезду і правесьці кансультацыі з кіраўніцтвам Менскай "Бацькаўшчыны". У склад камісіі ўвайшлі Ян Чыквін, Барбара Пякарская, Юрка Каліна і Яўген Вапа.

У хуткім часе ў Беластоку павінна пачаць працу рэгіянальнае тэлебачаньне. Ужо сабрана 10000 подпісаў людзей, якія жадаюць, каб на ім былі і беларускія праграмы. На сходзе выказвалася меркаваньне, што ёсьць добрыя персьпектывы для гэтага.

Беларускі Саюз у Рэчы Паспалітай вырашыў удзельнічаць у польскіх парламанцкіх выбарах. Для падрыхтоўкі да іх, таксама была абрана камісія.

**Д.КІСЕЛЬ**

# АМЕРЫКА ЗА СВАБОДУ СЛОВА

ЗША заклікалі Беларусь "аднавіць свабоду слова". Аб гэтым гаворыцца ў звароце пасольства ЗША, распаўсюджанным 21 чэрвеня і выкліканага захадамі ўладаў па закрыцьцю "Белорусской деловой газеты". У паведамленьні прыводзяцца ўрыўкі заявы прадстаўніка Дзярждэпартаманту ЗША Нікаласа Бэрнса . У гэтай заяве гаворыцца: "Беларусь зьяўляецца ўдзельнікам міжнародных пагадненьняў аб правах чалавека. Мы заклікаем урад Беларусі паважаць сусьветна прызнаныя стандарты, якіх Беларусь у свой час абавязалася прытрымоўвацца".

**Э.-Х.**

 



# ХОПІЦЬ БЫЦЬ РУДЫМІ МЫШАМІ

**"Перастаньце маўчаць, калі побач з вамі парушаюць законы. Інакш вінаватымі ва ўсіх бедах зробяць вас" - заявіў на семінары старшыняў гарадзкіх і раённых саветаў Гарадзеншчыны, які адбыўся 5 ліпеня, сябра Прэзідыуму Вярхоўнага Савету краіны Сямён Домаш.**

Семінар, прысьвечаны арганізацыі работы прадстаўнічых органаў улады ў вобласьці, выразна паказаў бядотны стан, у якім апынуліся саветы. Пазбаўленьне "усяго і ўся" (так выказаўся старшыня гарсавету Горадні Фёдар Гудзей), яны пераўтварыліся ў маўклівы , бездапаможны прыдатак "вертыкалі". Многія з іх ня маюць нават уласных грашовых рахункаў, паўнавартаснага апарату кіраваньня. Гэта ня можа не спараджаць разгубленасьць і адчай сярод дэпутатаў. Гэта выразна чулася ў выступах многіх удзельнікаў семінару. Але прагучалі на сустрэчы старшыняў саветаў і іншыя ноткі. "Хопіць быць рудымі мышамі і сьляпымі кацянятамі! Нас абраў народ і мы нясем адказнасьць за тое, што вакол нас адбываецца", - заклікаў прысутных старшыня Зэльвенскага раённага савету сп. Дзянішчык.

Яўна дадаў духу ўдзельнікам семінару і сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савету краіны Сямён Домаш. Ён паведаміў, што Канстытуцыйны суд прызнаў незаконнымі шэраг распрацаваных прэзідэнцкай адміністрацыяй нарматыўных дакумантаў, якія значна абмяжоўвалі







паўнамоцтвы Саветаў, замацаваныя ў Канстытуцыі. Размова, у прыватнасьці, ішла аб Палажэньні аб кіраўніку мясцовай адміністрацыі і ўказе аб зьмяненьні структуры штатаў з мэтай удасканаленьня структуры дзейнасьці Саветаў. "У хуткім часе, - заявіў сп. Домаш, - усе вы станеце сьведкамі адкату прэзідэнцкай адміністрацыі ад таго, што яна ў гэтых пытаньнях натварыла".

Прамым наступствам інгнараваньня "вертыкальлю" існаваньня заканадаўчай улады, на думку Сямёна Домаша, стала поўная ізаляцыя Беларусі ў сьвеце. "Ніхто ў сьвеце ў канцы XX ст. не дазволіць усталяваньня ў сэрцы Эўропы аўтарытарнага рэжыму. Гэта далі зразумець і нашай дэлегацыі, якая нядаўна наведала сесію Эўрапарламанту, на якой нам адмовілі ва ўступленьні ў гэтую аўтарытэтную арганізацыю. Прычынай сталі адсутнасьць падзелу ўладаў у Беларусі і многіх момантаў Міжнароднай хартыі мясцовага самакіраваньня, наяўнасьць якіх зьяўляецца абавязковай для членства ў Радзе Эўропы, - падкрэсьліў сп. Домаш.

Тым часам некаторыя мікрараёны Горадні, па словах старшыні гарсавету Фёдара Гудзея, у выглядзе эксперыменту ўжо сёньня гатовыя перайсьці на самакіраваньне, але няма адпаведнага рашэньня Вярхоўнага Савету. Магчыма, яно будзе прынята ў верасьні, калі ў парламанце будзе разглядацца праект аб заканадаўчым забесьпячэньні функцыянаваньня органаў мясцовага кіраваньня.

Закрануў у сваім выступе Сямён Домаш і прынятыя парламантам дапаўненьні да Крымінальнага кодэксу, якімі ўводзіцца крымінальная адказнасьць за невыкананьне рашэньняў Канстытуцыйнага Суду і за прымус іншых асобаў не выконваць гэтыя рашэньні: "Гэтым Вярхоўны Савет імкнуўся напалохаць не людзей, а чыноўнікаў, якія пасягнулі на сьвятое сьвятых - на Канстытуцыю. Той, хто пераступае закон, павінен ведаць, што сам можа апынуцца па-за законам".

Напрыканцы свайго выступу сябра Прэзідуму беларускага парламанту заклікаў удзельнікаў семінару "перастаць маўчаць, калі побач парушаецца закон". "Сёньня ў краіне - адзначыў сп. Домаш - вельмі кепска выконваецца бюджэт. Мы ведаем факты грубага яго парушэньня з боку выканаўчай улады, у тым ліку і на Гарадзеншчыне, дзе вялікія сродкі выкарыстоўваліся не па прызначэньню. Вы зацьвярджалі бюджэт. Вазьміце сітуацыю з яго выкананьнем пад кантроль. Запатрабуйце ад выканаўцаў справаздачу. У адваротным выпадку вінаватымі зробяць вас," - папярэдзіў Сямён Домаш.

**Вітаўт РУДНІК.**

# ЯК МАМА ПАКІНУЛА КАЦЮ

**Маленькую шасьцімесячную Кацю Рэш у дзіцячую бальніцу перадала медыцынская сястра Вярцялішкаўскай амбулаторыі. Немаўля было пакінута ў апусьцелай хаце. "Гора-бацькі" так сьпяшаліся зьехаць, што на такую "дробязь", як уласнае дзіцё, не зьвярнулі ўвагі, маўляў, добрыя людзі паклапацяцца...**

**Далей абавязкі па выхаваньню Рэш Кацярыны Пятроўны (такое поўнае імя і прозьвішча дзіцяці) возьме на сябе дзяржава. Маці ж - карэнная расіянка — невядома дзе. Да афармленьня дакумантаў дзяўчынкі, яна застанецца ў чацьвёртым аддзяленьні Гарадзенскай дзіцячай бальніцы.**

У невялікім, утульным пакоі, куды мяне правяла медыцынская сястра, я сустрэлася з Тацьцянай Уладзіміраўнай Белазерцавай - загадчыкам чацьвёртага аддзяленьня бронхалёгачных паталогій і рэсьпіраторных інфекцый.

Сорак пяць ложкаў, на якія разьлічана аддзяленьне, згадзіцеся, немалая гаспадарка, таму ёсьць шмат клопатаў, праблем. Але як прыемна бачыць у вачах чалавека неабыякавасьць, жаданьне добра рабіць сваю справу, а не наракаць на час і абставіны.

*Калі я спытала* ў Тацьцяны Уладзіміраўны пра тых дзетак, якія паступаюць да іх на лячэньне з дому дзіцяці, - яна прапанавала мне прайсьці разам з ёй. Мы ўвайшлі ў невялікую палату з чатырма ложкамі, дзе дзьве медыцынскія сястры ўкладвалі спаць дзяцей. Набліжаўся ціхі час, таму застацца ў пакоі даўжэй чым пяць хвілін мы ня мелі магчымасьці. Тацьцяна Уладзіміраўна паведаміла мне аб тым, што такую палату даглядаюць тры чалавекі: дыетсястра, паставая і санітарка. Гэта ня толькі добра кваліфікаваныя сьпецыялісты, больш таго -людзі з добрымі сэрцамі.

Адказваючы на маё пытаньне, што ўяўляюць сабой сем'і, дзеці якіх трапляюць у такое цяжкае становішча, Тацьцяна Уладзіміраўна выявіла дзьве асноўныя іх катэгорыі. Па-першае, гэта сем'і, дзе абодвух бацькоў за п'янства альбо злачынствы пазбаўляюць бацькоўскіх правоў. На сёньняшні дзень у чацьвёртым аддзяленьні знаходзіцца хлапчук ва ўзросьце да двух гадоў, бацькі якога знаходзяцца пад сьледзтвам за забойства. Да другой катэгорыі адносяцца дрэнназабясьпечаныя сем'і.

Але як бы там не было, на сёньняшні дзень за лёс гэтых чатырох дзетак можна не турбавацца, пакуль іх апякаюць дасьціпныя і ўважлівыя людзі з чацьвёртага аддзяленьня гарадзенскай дзіцячай бальніцы.

Але як складзецца лёс гэтых дзяцей далей?...

**Ірына Ю.**

# *БУДЗЕМ МЫЦЬ БУТЭЛЬКІ?*

Цэнтральная дэгустацыйная камісія піва падтрымала прапанову Лідзкага піўзавода аб прыёме абаротных бутэлек без этыкетак, бо бутэлькамыйныя машыны не спраўляюцца належным чынам са сваімі абавязкамі. Але па ўсім відаць, марная гэтая справа. Падобныя спробы рабіліся ўжо ня раз і правальваліся.

**ВАЦЛАЎ СЯРПІНСКІ**

# ДАЦЭНТЫ ПЛАНУЮЦЬ ПРЫВАТЫЗАВАЦЬ УНІВЕРСІТЭТ?

**Вярхоўны Савет нядаўна прыняў пастанову, згодна з якой заработнай плаце быў нададзены рэжым першачарговага плацяжу. Рабочы клас можа ўздыхнуць з палёгкай: калі на рахунку завода ёсьць грошы, то заробак выплацяць у першую чаргу, а падаткі будуць забіраць потым.**

Затое бюджэтны клас зацягвае паясы: паколькі грошы з завадзкіх рахункаў пойдуць у кішэні рабочых, а не ў бюджэт, то цяпер заробкі будуць несвоечасова выплочвацца настаўнікам, урачам, навукоўцам і г.д. (ня блытаць з АМАПаўцамі, КДБістамі і падаткавымі інсьпектарамі).

Прыкладам можна лічыць тое, як выплочваюць заробкі ў Гарадзенскім дзяржуніверсітэце. Спачатку, як у любой салідная установе, плацілі першага зарплату і 15-га - аванс. Потым перанесьлі плацяжы на 5-га і 20-га адпаведна. Аднак 9 ліпеня заработную плату яшчэ не выплочвалі.

"Някепска было б прыватызаваць "універ", - кажуць выкладчыкі, - тады плату за навучаньне мы бы пускалі на ўласныя заробкі, а зарплату затрымлівалі б іншым".

Наперад, спадары дацэнты! Да 1 верасьня ёсьць яшчэ час!

**С.С.**

# ІНТЭРНАТ ДЛЯ СІРАТ

**Штогод на Гарадзеншчыне на 300-400 чалавек павялічваецца колькасьць дзяцей-сірат. У гэтым годзе для іх адчыніліся два новыя сіроцкія дамы - у Панямуні і ў Ваўкавыску. На чарзе - інтэрнат для сірат у Горадні.**

Да лістапада бягучага году аддзелу гарвыканкаму па кіраваньню камунальнай маёмасьцю і прыватызацыі даручана знайсьці памяшканьне для школы-інтэрната, дзе разам з сіратамі будуць жыць і вучыцца таксама дзеці з малазабясьпечаных і "цяжкіх" сем'яў.

**В.ДРЭМА**

## ПРАЦОЎНЫЯ ВАКАНСІІ

### НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ ГОРАДНІ

**Асацыяцыя Гроднарамбуд,** тэл.: 33-32-17, 33-72-55.
Галоўны бухгалтар - заробак 1500000 руб.
Муляр у Расею на год (4-5 разрад) - заробак 3000000 руб.
Прараб у Расею - 4000000 руб.
**Бел-Тос (былое ВМК-168)** , тэл.: 47-15-57, 47-15-16.
Прараб - 600000 руб.
**Гарбыткамбінат,** тэл.: 44-14-85.
Сьлесар-электрык па рамонту электрамашынак.
**Шпіталь**, вул. Дзяржынскага, 17.
Хірург.
**ВА "Гроднамэбля",** тэл.: 47-82-37.
Станочнік д/а станкоў (3-4 разрад) - 600000 руб.
**Гроднааблгаз,** тэл.: 44-43-14.
Электрагазазваршчык (5-6 разрад) - 1500000 руб.
**ВКФ "Жуведра",** тэл.: 6-90-27.
Маляр
Станочнік д/а станкоў
**ЖЭУ трэста Будбытрамонт,** тэл.: 72-00-23, 45-46-06.
Галоўны бухгалтар (бухгалтарская адукацыя, стаж 3 гады) - 1300000 руб.
**Завод карданных валоў ("Белкард"),** тэл.: 2-60-25, 2-62-92.
Інжынер-сістэматэхнік - 1000000 руб.
**Механічны завод,** тэл.: 47-02-00, 44-83-36.
Гальванік - 700000 руб.
Маляр - 600000 руб.
Сьлесар-рамонтнік (5-6 разрад)
**ВКФ "Орбікс",** тэл.: 33-15-74.
Слесар-сантэхнік (разрад вышэй 3)
Электрагазазваршчык (разрад вышэй 3)
**ВА "Праца",** тэл.: 44-50-77.
Галоўны эканаміст
Камерцыйны дырэктар (з веданьнем маркетынгу)
**МП "Пошук",** г. Белазёрск, Брэсцкай вобл., тэл.: 8-01643-2-91-32.
Апрацоўшчык у Расею (4 разрад) - 2500000 руб.
Прадпрымальнік, тэл.: 47-83-17.
Слесар па рамонту аўтамабіляў.
**Радыётэлецэнтр,** тэл. 33-55-16.
Галоўны бухгалтар - 900000 руб.
**Раённы вузел сувязі,** тэл.: 47-21-96.
Галоўны бухгалтар - 808000 руб.
**Райспажыўсаюз,** тэл.: 45-25-95, 47-03-18.
Цясьляр (3 разрад)
**РБУ,** тэл.: 72-03-44.
Электрагазазваршчык (4 разрад)
**Сьвідравіна МП,** тэл.: 39-01-97.
Страхар - 400000 руб.
**Сьпецсаўгас "Неманскі",** Тэл.: 33-52-14, 33-53-22, 33-65-63.
Электрагазазваршчык (3-4 разрад)
**ВВТК Гроднапрамбуд,** тэл.: 44-42-22.
Станочнік д/а станкоў (3-4 разрад) - 1000000
**ВКФ "Формула",** тэл.: 39-95-79, 39-00-67.
Кіроўца аўтобуса (усе катэгорыі) - 1000000 руб.
**ПКФ "Фрыбел",** тэл.: 44-32-97.
Будаўнік высокай кваліфікацыі - 1500000 руб.
**ТВФ "Элод",** тэл.: 44-85-24.
Інжынер па сувязі з ведамі электронікі
Швачка (3-4 разрад)
**РБК "Юнацтва",** тэл.: 5-63-61
Муляр

**Усе зьвесткі дадзены па стану на 10 ліпеня.**

# МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

**Цудоўнае зьяўленьне Маці Божай айцам бернардынам, якія заснавалі мястэчка Будслаў, што на Мядзельшчыне, адбылося ў 1588 годзе. З таго часу штогод у ноч на 2 ліпеня Цудатворны абраз Маці Божай Будслаўскай - апякункі Беларусі - зьбірае пілігрымаў з усіх куткоў нашай краіны.**

Пад вечар 1 ліпеня каля баракальных муроў велічнага касьцёлу Узьнясеньня Марыі сталі гуртавацца пілігрымы. Моладзь рушыла да капліцы Сьв.Барбары, дзе малады экспрэсіўны дамініканец кіраваў рэпетыцыяй хору. Тут нехта з мясцовых старажылаў ціхенька апавядаў гісторыю пра тое, як у 1941 годзе бальшавікі хацелі ўзарваць сьвятыню. Касьцёл абклалі выбуховым рэчывам, але мястачкоўцы, старыя і малыя, леглі вакол храма і так праляжалі ўсю ноч. Зранку прыйшла пагалоска, што бальшавікі адыйшлі. Гэта быў цуд, які выратаваў сьвятыню. І сёньня мы можам захапляцца яе веліччу і прыгажосьцю.

Апоўначы пачалася працэсія. Сотні запаленых сьвечкаў, загадкавыя цені на сівых касьцельных вежах і братэрскі настрой, які яднаў усіх удзельнікаў. Сьвятую Імшу па-беларуску адпраўляў пробашч касьцёла Сьв. Тройцы на Залатой горцы ў Менску айцец Міхал Сапель. На прыканцы імшы вернікі засьпявалі духоўны гімн "Магутны Божа", просячы ў Бога ласкі для нашай Бацькаўшчыны.

Уначы і зранку каля касьцёла моладзь ладзіла гульні і сьпевы. Пілігрымы, седзячы ля вогнішча, дзяліліся ўражаньнямі, жартавалі, лічылі мазалі. Дыякан Алесь Чайкоўскі прывёў пілігрымку з Полацку. Самай маленькай паломніцы было тры гады. Дарога заняла пяць дзён і, нягледзячы на тое, што амаль увесь час ішоў дождж, настрой ва ўсіх быў радасны. Пілігрымы апавядалі пра тое, як на Ўсходзе Беларусі часта чулі сьмех і сьвіст, людзі хавалі вочы. Затое ў Заходняй Беларусі каля кожнага прыдарожнага крыжа вяскоўцы ставілі накрытыя абрусамі сталы, прыносілі малако, печыва. Усе з радасьцю чакалі паломнікаў і іх прыход перажывалі з моцнай верай. Шмат хто перадаваў ахвяраваньні ў скарбону да Маці Божай Будслаўскай. Простыя вясковыя людзі прасілі памаліцца за Беларусь.



Дыяканы Юры Барок і Уладзімір Грыгор'еў, якія вялі пілігрыму з Мёраў разам са сваім ксяндзом-пробышчам айцом Уладасам Пятрайцісам, вельмі ганарыліся тым, што пілігрымавалі з намётамі, хаця сярод іх былі ня толькі сталыя, са стажам паломнікі, але і моладзь. Дый у Буславе мёрцы маюць ужо сталае месца для лешніка, куды кожны можа завітаць на гарачую гарбату ў цудоўную кампанію.

Былі пілігрымкі з Менску, Браслава, Шаркоўшчыны, Варанаева, Воршы і нават з Масквы. На жаль, з Гарадзенскай Катэдры, дзе праводзіцца Сьвятая Імша па-беларуску - адзінкі.

Пасьля Сумы яшчэ нейкі час абмяркоўваліся падзеі апошніх дзён, набывалі абразкі, кніжкі і пачастункі ў шматлікіх шапіках у цэнтры мястэчка, абменьваліся адрасамі і тэлефонамі ды раз'язджаліся, адвозячы дадому спакой, надзею і радасьць будучай сустрэчы з апякункай Беларусі - Маці Божай Будслаўскай.

**Людвіка ВАЛЫНЦОВА.**

 

# РЭКЛАМА ☎45-29-96, факс: (0152)45-35-61



**КУПОН • ПРЫВАТНАЯ АБ'ЯВА**

14 Імя і прозьвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________

Тэкст ____________

БЯСПЛАТНА

**Умовы разьмяшчэньня**

Для бясплатнай публікацыі на купоне прымаюцца выключна аб'явы прыватнага характару.

На адным купоне можна даць аб'яву толькі ў адну рубрыку, разборліва напісаўшы тэкст і адрас.

Выразаны купон з тэкстам аб'явы адпраўце поштай, альбо прынясіце ў рэдакцыю самі.

ПАГОНЯ

230023, Горадня, вул. Дамініканская,1

*Купон сапраўдны на працяву тыдня з моманту выхаду "ПАГОНІ"*



## ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЮ

* складны дзіцячы ровар б/у ў добрым стане. Тэл.: 31-50-27.

* зямельны ўчастак ў в. Лапенкі (15 сотак), шыферныя цьвікі, газавую пліту. Тэл.: 31-86-43.

* блок-сьценку "Серабранка" б/у ў добрым стане, танна, пяць секцый -$250, тахту палутарную б/у (ГДР) пад арэх - 30 $, тэлевізар каляровы "Гарызонт-355 І" б/у, кінескоп "Ташыба" (Японія) - 100$. Адрас: пр-т 40 год Перамогі, д. 96, кв. 288.

* біблію праваслаўную для дзяцей, поўную пратэстанцкую, наборы пратэстанцкай і праваслаўнай літаратуры. Кошт бібліі 60 і 30 тыс. руб. Тэл.у Лідзе: 3-52-87 з 8.00 да 9.00 і з 16.00. Уладзімір.

* памперсы нямецкія танна. Тэл.: 33-60-28.

* кампутары IBM розных мадыфікацый пад заказ (цэны нізкія). Тэл. у г.п. Рось: 32-1-06. Алег.

* 1-пакаёвую кватэру, 34,4 кв. м, жыльлёвая - 18 кв.м, кухня - 7,3 кв.м, 11 паверх, 1 балкон, раён Дамброўскага. Кошт - 10,3 тыс. дал.. Тэл.: 33-88-35.

* участак 20 сотак в. Путрышкі, бурматэрыялы. Тэл.: 33-99-33, 3-45-32.

* энцыклапедыю Беларусі (3 тамы), медыцынскую літаратуру, заплечнік для нашэньня дзіцяці, мужчынскі махровы халат (Кітай). Тэл.: 33-79-95.

* матацыкл 43-350, 81 г. у добрым стане - 270$. Тэл.: 99-66-59.

*дзіцячую каляску-тройку б/у у цудоўным стане-45$. Тэл.: 99-64-98.

* матацыкл "Мінск" новы, гараж бяз месца, палас 4,5х2,5 новы, мяккую мэблю б/у пасьля перацяжкі. Тэл.: 72-55-41.

* 4-камфарную газавую пліту б/у 1 год (Польшча). Тэл.: 72-41-01.

* металічны павільён-магазін брэсцкага тыпу, уцеплены, бяз месца. Тэл.: 2-71-50.

* дачны ўчастак 10 сотак ў раёне в.Рыбніцы. Тэл.: 31-85-08.

* танна халадзільнік б/у, каўровая дарожка 2,5х4,9 б/у, пыласос "Тайфун" новы. Тэл.: 6-55-78.

* рыбацкія боты, прычапную прыладу, вудачкі. Тэл.: 45-24-61.

* новую пральную машыну "Таўрыя". Тэл.: 5-93-51.

* дом разабраны на дачу, танна. Тэл.: 2-96-63 з 16.00 да 21.00.

* газавую пліту новую. Тэл.: 31-86-43.

* два ложкі спажытыя, драўляную галаву лася з натуральнымі рагамі. Тэл.: 33-79-95.

* ударную ўстаноўку новую з запаснымі пласьцінамі. Тэл.: 44-69-67.

* радыёпрыёмнік "Селена-215", фоташпалеры (малюнак бярозавая рошча, п. 276х198), гарнітур на вясельле п. 46-48 (чорны), танна. Тэл.: 6-30-53.

### КУПЛЮ

* металапракат. Тэл.: 33-99-33, 33-45-32.

* кардан на м/а "Мазда" Е2200, тэл 6-48-14

### МЯНЯЮ

* прыватызаваную 34,4 кв.м. кватэру а 2-пакаёвую прыватызаваную з даплатай. Тэл.: 33-88-35.

* 3-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую з даплатай. Тэл.: 44-69-67.

### ЗДАЮ

* вялікі пакой (ці два) з пячным ацяпленьнем у прыватным цагляным доме каля ракі Ласосна. Тэл. пасрэдніка: 5-03-86.

* пакой з перадаплатай. Гродна, вул. Пушкіна, 24, кв. 57.

### ЗДЫМУ

* 1- ці 2-пакаёвую кватэру нядорага. Тэл.: 47-83-85 з 8.00 да 16.00 (акрамя выхадных)

* 1-пакаёвую кватэру ў раёне Паповіча, Соламавай, Рэпіна. Тэл.: 31-50-27.

### ПАСЛУГІ

* Вяжу на спіцах. Тэл.: 31-50-27.

* Экспрэс-дыягностыка малых сродкаў цяжарнасьці (па мачы) амерыканскімі тэстамі, а таксама эфектыўнае выяўленьне ўзбуджальнікаў жаночых хвароб. Тэл. у Лідзе.: 3-11-81.

* Таніраваньне шкла аўтамабіляў стужкаю заказчыка. Тэл.: 47-17-65 з 17.00 да 18.00, акрамя выхадных.

### РОЗНАЕ

* Шукаю фірму-спонсара. Тэл.: 72-50-85.

* Згубленае пасьведчаньне ўдзельніка вайны ІЗ N 925535 на імя Васькевіча Апанаса Апанасавіча лічыць несапраўдным.

* Навошта Вам лішняя вага? Кожны кілаграм - гэта новая цаглінка, якая цісьне на ваш пазванок, сэрца, сасуды. Тэл.: 44-92-06 з 8.00 да 14.00.

* Праца дома ў вольны час, высокі даход. Заяўка+канверт з адваротным адрасам+купон б/а. 230010, Гродна, пр-т Янкі Купалы, 22-165.Сныткова Алена.

* Шукаю працу ў хаце. Тэл. у Ваўкавыску: 2-26-80.

* Патрабуецца бухгалтар. Тэл.: 33-99-33, 33-90-92, 33-45-32.

* Дзяўчына, якая валодае нямецкай і ангельскай мовамі (пасьля заканчэньня Мінскага дзяржаўнага інстытута замежных моў), шукае працу з высокім заробкам. Тэл.: 47-83-85 з 8.00 да 16.00 (акрамя выхадных).



☎ 45-29-96

Прыватныя бясплатныя аб'явы прымаюцца ў нас і па тэлефону кожны дзень, акрамя суботы і нядзелі.

*Публікацыя — у пятніцу.*

* Выдатная магчымасьць палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Сьпецыяльнасьць і ўзрост ня маюць значэньня. Тэл.: 44-92-06 з 8.00 да 16.00.

* Шукаю месца для кароткага адпачынку на ўзмор'і Польшчы або Летувы (для 2 чалавек). Тэл.: 33-79-95.

### ЗНАЁМСТВЫ

* Жанчына 50 гадоў пазнаёміцца з парадачным мужчынам, бяз шкодных звычак. Жыльлём забясьпечана. Гродна-15, п/п N 32297.

* Мне 49 гадоў, 174/80, удава. Пазнаёмлюся з мужчынам да 60 гадоў, якому таксама адзінока. Цаню вернасьць, духоўнасьць, шчодрасьць, бескарысьлівасьць. Пісаць: Гродна-9, п/п ІІІ-ДР N 641728.

* Дзяўчына! Калі вы бяз шкодных звычак, не вышэй 180 см, напішыце мне. Буду чакаць. 230029, Гродна, вул. Горкага, 69-42. Васіль.

* Мужчына спартыўнага складу, бяз кепскіх звычак 40/68/173 пазнаёміцца з жанчынай з добрым характарам і сур'ёзнымі намерамі. Прабачце, але знаходжуся ў месцах зьняволеньня. г. Ваўкавыск, УЖ 15/11-91. Пятроў Аляксандр Іванавіч.

* Адзінокі мужчына 44/178/70 бяз комплексаў пазнаёміцца з адзінокай жанчынай 38-46 гадоў ня схільнай да паўнаты, чыстаплотнай, прыемнай зьнешнасьці, маючай жыльлё. Гродна, 230024, п/п ІІ-ДР N 549558.

**ТЭЛЕФАНУЙЦЕ!**

АКТУАЛІІ

# ФЕНОМЕН АЛЯКСАНДРА

**Нягледзячы на імкліва падаючы ўзровень жыцьця, развал эканомікі, уціск правоў чалавека, паводле ўсіх сацыялагічных дасьледаваньняў на Беларусі самым папулярным палітыкам зьяўляецца Аляксандр Лукашэнка. Чалавек, які два гады назад прыйшоў да ўлады з абяцанкамі "да Новага году запусьціць заводы, пасадзіць карупцыянераў" і г.д. і нічога з гэтых абяцаньняў ня выканаў.**

**На чым палягае гэты феномен? Гэтай тэме была прысьвечаная сустрэча нашага карэспандэнта з дырэктарам дасьледніцкага цэнтру сацыяльнай дынамікі, дацэнтам, кандыдатам філасофскіх навук, дактарантам кафедры філасофіі і метадалогіі навукі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту У.Падголам.**



- Феномен гэты заключаецца ў менталітэце нашага народу і ў менталітэце самага Аляксандра Лукашэнкі.

Дзесяцігоддзі жыцьця ва ўмовах таталітарнага рэжыму прывучылі людзей верыць у ідалаў (Ленін - правадыр усіх часоў і народаў, камуністычная партыя - "ум, честь и совесть нашей эпохи" і г.д.), у міфічныя планы пабудовы сьветлай будучыні (сусьветная рэвалюцыя, камунізм і г.п.), якія яны прапаноўвалі. У часы перабудовы адбылося разбурэньне гэтых стэрэатыпаў. Неяк раптам высьветлілася, што на сумленьні Леніна -мільёны загубленых лёсаў, што КПСС - гэта ня толькі "руководящая и направляющая сила", але і 1937 год, Курапаты, Афганістан, карупцыя, што самае гуманнае савецкае грамадзтва - гэта Гулагі, высылкі з краіны, "псіхушкі". У сваю чаргу пачалі прапагандавацца новыя каштоўнасьці: рынак, дэмакратыя, свабода, правы чалавека. Але ідэалізацыя новых каштоўнасьцяў суправаджалася няспынным сацыяльным расслаеньнем на багатых і бедных. Калі адныя будуюць шыкоўныя катэджы - другія ледзь не галадаюць, не атрымліваюць месяцамі заробку. У выніку ў сьвядомасьці людзей тэрмін "прававая дзяржава" стала атаясамлівацца з разгулам злачыннасьці, грамадзянская супольнасьць - з "пройдемте, товарищ!", правы чалавека - з правамі начальніка, дэмакраты сталі "дерьмократами". Не пасьпеўшы ўвасобіцца ў жыцьцё, гэтыя ідэалы сталі для многіх пудзілам. У падобнай сітуацыі прывучаны жыць па ўказцы зьверху саўковы люд (ці лупубліка, як яе я называю), які складае каля 70 працэнтаў беларускага народу чакаў адказаў: у чым выратаваньне і хто вінаваты, чакаў абяцаньня цуду.

***- Цуд зьявіўся ў выглядзе дырэктара саўгасу Аляксандра Лукашэнкі?***

Так. Менавіта ён першы ў гэтай сітуацыі паабяцаў усё вырашыць і з усімі разабрацца. Ён першы ўказаў на ворагаў - гэта нейкія таямнічыя сілы, якія нажываюцца на бедах народу, гэта карупцыянер Шушкевіч і банкір Багданкевіч, які накарміў сваіх сыноў, разрабаваўшы Нацбанк. Пры гэтым Лукашэнка праявіў сапраўды фенаменальныя здольнасьці сваёй псіхікі - гаварыць і адначасова сьвята верыць у тое, пра што гаворыць. Пры гэтым сваю шчырую ў гэта веру ён з посьпехам унушае тым, хто яго слухае. Гэты талент заключаецца ў трынарнай структуры прамаўленьня: спачатку ён "плача" (мне больно видеть, как и вам), як бы сыходзіць да праблемаў "простых людзей", спачуваючы ім і заваёўваючы іх давер. Затым ён "крычыць да болю" (мне так больно, что я уже не могу терпеть! Как и вы!). Гэткім чынам людзі як бы "падзаводзяцца", узбуджаецца іх псіхіка. І ўжо за тым даецца ўстаноўка: "Я буду выкрываць карупцыю, садзіць злачынцаў, інтэграваць славянаў. Разам з вамі!". Спрацоўваюць унушальніцкія функцыі і чалавек пачынае верыць, што ўсё гэта будзе, давярае абсалютна самым неверагодным ідэям, імкнецца аб'ядна цца з новым ідалам і падсілкаваць яго энэргіяй. І ня важна, што гэты ідал не прапануе нічога канкрэтнага. Наадварот, для лупублікі гэта толькі плюс. Вазьміце "раскрутку" ідала Лукашэнкі - інтэгратара; адраджэнца СССР. Кульмінацыя гэтай кампаніі прыйшлася на перадвыбарную бітву з Кебічам. Спачатку будучы прэзідэнт заявіў, што Кебічу трэба паставіць помнік за ідэю стварэньня рублёвай зоны, засьведчыўшы тым самым і сваю адданасьць ідэі рэанімацыі Саюзу, а затым абвінавачвае свайго сапэрніка ў бяздарным "завале" гэтай зоны, як і ўсяго астатняга. Пры гэтым Лукашэнка заяўляе, што ведае, як трэба дзейнічаць, але ня кажа канкрэтна - як. Бо ад адказнасьці, ад канкрэтных праграмаў, планаў, наступае сьмерць ідалу, адметнай рысай якога зьяўляецца здольнасьць унушаць веру ў свае цудадзейныя здольнасьці. Вельмі цікавы ў гэтым сэнсе прыклад Аляксандра Дубко - калгас-мілІянер, зарабляе валюту, мае свае заводы, людзі добра жывуць. Здавалася б, выбаршчыкі павінны ісьці за ім, за чалавекам, які зарэкамендаваў сябе добрым гаспадарнікам. Але... Тое ж адбылося і на нядаўніх выбарах у Расеі з Фёдаравым. Стваральнік унікальнага, вядомага ва ўсім сьвеце калектыву, які паказвае як трэба працаваць і зарабляць грошы, не атрымаў сур'ёзнай падтрымкі выбаршчыкаў. Людзей захапляе ня гэта - ім патрэбны цуд. Гэта і ёсьць ірацыянальны менталітэт, ірацыянальная вера, асноўнымі момантамі якой зьяўляюцца вера ў цуд і чаканьне нападу ворагаў.

***- Такім ворагам стала палітычная апазіцыя?***

Вобраз ворага прывіваўся апазіцыі з моманту яе ўзьнікненьня на Беларусі. І БНФ, і Зянон Пазьняк усе гэтыя гады падаваліся як носьбіты сьмерці, паліцаі і дзеці паліцаяў, здраднікі. Гэта ўнушалі людзям і камуністы, і Кебіч, а ўся глыбіня верыла. Магчыма, у гэтай сітуацыі трэба было рабіць стаўку на ідэалізацыю Хадыкі. Пад час усіх тэледэбатаў ён упэўнена перамагаў сваіх апанентаў. Тыповы беларус -добры, разважлівы, спакойны. За ім пайшлі бы выбаршчыкі, зацюканыя міфам пра фашыста Пазьняка. Але Хадыка застаўся на другім плане. Магчыма, гэта было памылкай, як і адмова "раскруціць" перад выбарамі магутную антыкарупцыйную кампанію. Некаторымі актывістамі Фронту перад выбарамі прапаноўвалася правесьці ва ўсіх гарадах мітынгі, сходы супраць мясцовай карупцыі. Сьпісы людзей, зьвязаных з карупцыяй, былі тады добра вядомымі, ляжалі ў Кантрольнай палаце. У планах кампаніі быў грамадзкі суд над карупцыяй, правядзеньне міжнароднай канферэнцыі па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю, выданьне "Чорнай кнігі" беларускай карупцыі з канкрэтнымі прозьвішчамі і лічбамі. Палітычная рада Фронту палічыла гэта дзіцячымі гульнямі і на хвалі барацьбы з карупцыяй, якую гадамі вёў БНФ, пераможцам выйшаў Лукашэнка.

***- Ад аналагічных памылак, напэўна, можна засьцерагчыся?***

І трэба засьцерагчыся. Дапрыкладу, вялікую папулярнасьць прэзідэнт сабе набыў на інтэграцыі з Расеяй. Безумоўна, усё гэта бурбалка, якая ў любы момант лопне. Але памыляюцца тыя дэмакраты, якія спадзяюцца, што пасьля расчараваньня ў "інтэграцыі", якая не палепшыць жыцьцё, людзі расчаруюцца ў прэзідэнце. Той выйдзе на высокую трыбуну і заявіць прыкладна наступнае: "Я рабіў усё, як вы хацелі - аднаўляў СССР, аб'ядноўваў грашовыя сістэмы, войска, сьціраў межы, нацыяналізаваў банкі. А ў Расеі перамог Ельцын і капіталісты." І народ у большасьці сваёй з лёгкасьцю перакладзе віну на Ельцына ды іншых ворагаў. Паказальны ў гэтым сэнсе вынік аднаго з сацыялагічных дасьледаваньняў. Калі рэспандэнтаў пыталі, ці верыцевы, што Лукашэнка здольны адзін перамагчы карупцыю, зьнішчыць злачыннасьць, станоўча адказалі толькі 5 працэнтаў. "А калі яму ня будуць перашкаджаць?" - "Так" адказала ўжо 12 працэнтаў. "А калі будуць дапамагаць?" - ўжо 24 працэнты. У любой непрывабнай для сябе сітуацыі ўвесь ідэалагічны апарат Лукашэнкі знойдзе заўжды ворагаў народу -бізнэсмэнаў, апазіцыю, Пазьняка за мяжой і г.д. Такія міфы можна ствараць бясконца. Паглядзіце, як нашыя людзі глядзяць адныя і тыя ж серыялы: плачуць, перажываюць, вераць. У своеасаблівы тэлетрылер пераўтварыў беларускую палітыку і Лукашэнка - усе "саўкі" глядзяць на яе як на відовішча, якое іх не датычыць. Пераважваюць за асілка Аляксандра Рыгоравіча, які то інтэгруецца, то змагаецца з кім-небудзь. Гэты серыял доўжыцца ўжо тры гады. Будзе доўжыцца і далей. А на новыя выбары прэзідэнт прыйдзе пад лозунгам давесьці справу да канца. Правядзе яшчэ адзін рэферэндум, на якім атрымае "дабро" на сьмяротную кару для ворагаў народу, якія ўсё псуюць, і пераможа.

***- Невясёлыя перспектывы...***

Ня ўсё гэта безнадзейна. Апошнія сацыялагічныя дасьледаваньні сьведчаць аб тым, што дзесьці ў красавіку на Беларусі адбылася ідэалагенная рэвалюцыя. Калі да гэтага 60 працэнтаў нашых людзей чакала разбуральніка, які будзе ламаць, здымаць, садзіць у турмы і толькі 15 працэнтаў жадалі працаваць на стварэньне, то зараз лічба адваротная. Такі ж вынік і ў адносінах да дзяржавы. Калі раней большасьць людзей на пытаньне: "Што вы чакаеце ад дзяржавы - таго, што яна ўсіх накорміць, апране і г.п., ці таго, каб яна стварыла ўмовы, пры якіх вы самі здолееце даць сабе рады", адказвала, што хоча атрымаць падачку, то зараз патрабуе ўмовы. Шэраг нашых грамадзян паспрабавалі сябе ў бізнэсе, паездзілі "челноками" па сьвету, дыхнулі вольным паветрам. У выніку наш менталітэт узьняўся на новы ўзровень. Калі Лукашэнка ня спыніць сваю разбуральніцкую дзейнасьць, яго папулярнасьць будзе падаць.

У гэтай сітуацыі апазіцыя павінна пайсьці на аб'яднаньне ўсіх антытаталітарных сілаў у адзіную дэмакратычную кааліцыю. Іншага выйсьця няма. Любы іншы варыянт - гэта штучна створаны ідал, які ўсё роўна разваліцца. І зусім не варта ў гэтай справе марудзіць і разважаць, што Маісей вадзіў свой народ па пустыні сорак гадоў. Мы жывём у іншы час і такой форы нам ніхто ня дасьць.

**Гутарыў Вітаўт РУДНІК.**

# ЖЫВЕ ЯЕ ЛІРА НАНОВА

**У мінулую нядзелю ў Шчучыне адбылося сьвята, прысьвечанае 120-годдзю з Дня нараджэньня Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Жыхары горада і раёну, творчая інтэлігенцыя з Менску і Горадні, прадстаўнікі ўлады, шматлікія госьці сабраліся ў маляўнічым месцы ля возера, каб ушанаваць памяць славутай паэткі-дэмакраткі, успомніць добрым словам чалавека, які прысьвяціў сябе служэньню Бацькаўшчыне і народу.**

Лёс Пашкевічанкі непарыўна зьвязаны са Шчучыншчынай. Тут яна нарадзілася. Тут недалёка ад вёскі Стары Двор, на ўскрайку былой бацькоўскай сядзібы, знайшла апошні прытулак. Тут яе памятаюць, шануюць і любяць. Ад дзядоў бацькам, ад бацькоў дзецям перадаюцца паданьні пра добрую паненку, якая дбала пра просты люд, пра простую мову, самааддана змагалася супраць самаўладдзя, вучыла дзетак, пісала вершы, лячыла хворых...

Імя Цёткі носіць Астрынская сярэдняя школа, Цэнтральная раённая бібліятэка, вуліцы. Сіламі педагогаў і вучняў створаны музей славутай зямлячкі ў Астрынскай СШ, гісторыка-этнаграфічны куток на малой радзіме А.Пашкевіч у Хадзілонскай базавай школе...

...Ушанаваць знакамітую зямлячку прыйшлі і старыя, і малыя. Спачатку - урачыстасьць. На будынку Шчучынскай цэнтральнай бібліятэкі, якая носіць імя Цёткі, была адкрыта шыльда. Бібліятэка па-праву носіць гэта ганаровае імя. Тут робіцца ўсё, каб захаваць гістарычную спадчыну, адрадзіць мову і культуру, аднавіць людзкую памяць.

Бліснулі сваімі талентамі мясцовыя творцы: кожны экспанат тэматычнай выставы народнай творчасьці быў прасякнуты бясконцай пяшчотай да роднага куточка, да Беларусі і выклікаў непадробную цікавасьць удзельнікаў сьвята.

Новыя грані творчасьці славутай зямлячкі адкрылі для сябе тых, хто прысутнічаў на навукова-тэарэтычнай канферэнцыі "Цётка - нашчадкам сваім на гады і стагоддзі". Сваімі меркаваньнямі, думкамі, эмоцыямі падзяліліся знакамітыя беларускія пісьменьнікі і паэты, літаратурныя крытыкі, навукоўцы.

Радасьцю напоўніліся сэрцы ўдзельнікаў сьвята, калі адкрываўся скульптурны помнік Алаізы Пашкевіч. Доўгі час гэтая самотная скульптура не мела прыстойнага месца: стаяла на задворках дома культуры. І вось, нарэшце, яна ўзвысілася на ўзгорку над возерам у цэнтры Шчучына. Задуменна глядзіць з мінуўшчыны свабодалюбівая Пашкевічанка. Хочацца прысесьці на прыступку ля скульптуры і разам з ёй паразважаць над лёсам нашай гаротнай Бацькаўшчыны, над лёсам па-ранейшаму абяздоленага народу...

Паэзія і публіцыстыка Цёткі сёньня актуальныя як ніколі. Гэта адчуў кожны, хто слухаў і глядзеў музычна-літаратурную кампазіцыю "Жыве мая ліра нанова...".

Шчучынцаў радавалі артысты ансамбля песьні і танца "Белыя росы", мясцовыя самадзейныя артысты. Гучала трапнае беларускае слова, музыка, сьмех, ліліся па-над возерам песьні.

А ўвечары ўсіх сабрала гульнёва-танцавальная праграма "Летняя ночка купальская". Высока ў неба шугалі языкі вогнішча. Па возеру плылі дзявочыя вяночкі. Закаханыя шукалі папараць-кветку, загадвалі жаданьні. Кожны адчуваў сябе неад'емнай часьцінкай зямлі беларускай...

Сьвята, дзякуй яго арганізатарам, удалося. Сьвяткаваць мы ўмеем. На жаль, жыць годна, па-чалавечаму, чаго так прагнула наша славутая зямлячка, - пакуль не атрымліваецца...

**Ала БІБІКАВА.**




**13 ліпеня**

**1828 г.** У мястэчку Нягневічы на Наваградчыне нарадзіўся Іван Малышэўскі, вы-бітны асьветнік, славяназнавец, гісторык царквы.

**1866 г.** Нарадзіўся Напалеон Чарнецкі (спаўняецца 130 гадоў), вядомы публіцыст і крытык, лекар.

**14 ліпеня**

**1906 г.** У вёсцы Вялікія Жухавічы (Карэліцкі раён) нарадзіўся Уладзімір Варава, літаратар і публіцыст. Загінуў у 1929 г. у выніку тэракту.

**1992 г.** Памёр Аляксей Карпюк, выбітны пісьменьнік, дысідэнт-"шасьцідзесятнік", першы дырэктар дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі.

**15 ліпеня**

**1410 г.** Адбылася славутая Грунвальдзкая бітва.

**17 ліпеня**

**1893 г.** Нарадзіўся Аляксандр Вянгерка, тэатральны дзеяч, працаваў у Горадні ў 1939-40гг.

**1955 г.** У Вільні нарадзіўся Андрэй Бандарэнка, вядомы сучасны кампазітар, аўтар оперы "Князь Наваградзкі". З 1964 году жыве і працуе ў Горадні.

**19 ліпеня**

**1855 г.** Памёр Томаш Зан, славуты паэт-рамантык, філамат, блізкі сябар Адама Міцкевіча і Яна Чачота.



**Падрыхтаваў У.ХІЛЬМАНОВІЧ**

## КУЛЬТУРНАЯ ДАПАМОГА ЦІ ІДЭАЛАГІЧНАЯ ДЫВЕРСІЯ?

**Гарадзенскія мытнікі затрымалі замежныя выданьні, адрасаваныя абласной бібліятэцы.**

**!!! СКАНДАЛ**

У рамках дабрачыннай акцыі "Варшаваяне-Гарадзенцам" уже некалькі гадоў з Польшчы ў Гарадзенскую абласную бібліятэку імя Я.Карскага паступалі некаторыя польскія ды іншыя газеты і часопісы. Яны перадаваліся ў аддзел замежнай літаратуры, які знаходзіцца ў будынку Дома-музея Э.Ажэшкі. З цягам часу тут склалася свая група наведвальнікаў, якія цікавіліся жыцьцём у суседняй краіне, і заадно маглі пачытаць, што піша пра нас замежны друк.

І раптам у справу асьветы ўмяшалася мытня. Выданьні паступалі з Польшчы як груз, а таму мытня вылучыла патрабаваньне аплаціць усе належныя мыты. Бібліятэкары былі ўражаныя. Намесьнік дырэктара абласной бібліятэкі Лідзія Мальцава сказала карэспандэнту "Пагоні", што пасьля размовы па тэлефоне з начальнікам грузавой мытні нават расплакалася. Галоўнае, што ўсё па закону. Газеты і часопісы не расцэньваюцца як гуманітарная дапамога.

Бібліятэкары зьвярнуліся да свайго начальства ў міністэрстве культуры, адкуль атрымалі адказ, што пытаньне з бясплатнай культурнай дапамогай будзе вырашацца для ўсёй Беларусі. Што тычыцца сёньняшняга дня, то мытнікі не аддалі нават апошняга пакунку з друкаванымі выданьнямі, як іх не прасілі прадстаўнікі абласной бібліятэкі. Інтэлігентныя жанчыны потым абураліся з нагоды затрыманьня іх грузу, ад якога ня можа быць ніякай шкоды, і жартавалі, што праз мытню можа прабегчы незаўважаным слон, але замежны друк - ня пройдзе.

Лідзія Васільеўна прывяла і іншы прыклад, як трэба ставіцца да інтарэсаў нашай культуры. Гарадзенскі "Белсаюздрук" перадае з падлягаючых сьпісаньню выданьняў па некалькі экзэмпляраў для карыстаньня ў бібліятэцы. Напісаў і хацеў закрэсьліць. А раптам падатковыя інсьпектары ўбачаць у гэтым нейкую крамолу і таксама запатрабуюць ад бібліятэкі выплаціць 15 падаткаў за незаконнае ўзбагачэньне?

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ГАРАДЗЕНСКІ РОК-ДЭСАНТ



Гарадзенскія рок-гурты займелі ў рэспубліцы імідж выключна англамоўных, дзёрзкіх, нязгодніцкіх і нібыта абыякавых да нацыянальнай праблематыкі. Але мінае час, а разам з ім разбураюцца стэрэатыпы. Прычына была банальная - адсутнасьць арыгінальных беларускіх тэкстаў, суладных з дынамічнай рок-музыкай. Мо таму мясцовыя рокеры - рэдкія госьці на фестывалі беларускай песьні "Басовішча", што адбываецца на Беласточчыне.

Сёлета "Басовішча" стартуе 19 ліпеня і мае быць даволі рэпрэзэнтатыўным. У фэсьце прымуць удзел "Крама", "НРМ"("Мроя"), "Новае неба", "Палац", гурты з Польшчы. Гонар Горадні будзе бараніць каманда "Джангл крыстмас"("Раство у джунглях"). Магчыма, узмацніць гарадзенскі рок-дэсант Славік Добін з групай "Сьпячыя пчолкі".

Музыкі з "Джангл крыстмас"(на здымку) пачалі рэалізоўваць цікавы чыста беларускі праект пад назвай "Айша". Імпульсіўны вакал сьпявачкі Вікі Назаранкі, тэксты Юрыя Гуменюка і нехарактэрнае для айчыннай эстрады гучаньне робяць праект інтрыгуючым і экзатычным. Зрэшты, схільнасьць да экзотыкі ў "Джангл крыстмас" выявілася і ў запрашэньні да ўдзелу ў сваіх канцэртах танцораў-мурынаў з Камеруну.

Будзем спадзявацца, што гарадзенскі рок-дэсант пасьпяхова выступіць на "Басовішчы-96". А пра сам фэст і яго вынікі "Пагоня" паведаміць у бліжэйшых нумарах.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

### *НОВАЯ ПАСАДА ВАРЫВОНЧЫКА*

Галоўны трэнер гарадзенскага хакейнага клуба "Нёман" Анатоль Варывончык рашэньнем беларускай федэрацыі хакею ўзначаліў нацыянальную зборную нашай краіны. Ужо ў жніўні каманда пад яго кіраўніцтвам возьме ўдзел у перадалімпійскім адборачным турніры ў Рызе. Варывончык застаецца таксама і на чале гарадзенскай каманды




### *ЗОЛАТА КАЛЯДЫ*

На адкрытым першынстве Беларусі па плаваньню пераможцам на дыстанцыі 400 метраў вольным стылем стаў гарадзенец Ігар Каляда.

### КАМУНАЛЬНІКІ СУПРАЦЬ МЕТАЛІСТАЎ

6 ліпеня прайшла жараб'ёўка эўрапейскіх валейбольных турніраў. Як паведаміў нам галоўны трэнер гарадзенскага "Камунальніка" Анатоль Паняшын, сапернікам нашай каманды ў розыгрышы Кубку Канфедэрацыі будзе харвацкі "Металіст". Першая гульня адбудзецца 2 ці 3-га лістапада ў Харваціі. Адказная сустрэча - 9 ці 10 сьнежня ў Горадні.

### ФІЗКУЛЬТУРНІКАЎ КОРМІЦЬ - АЎТАРЫНАК

**Рост фізкультурна-спартыўнага руху ў Горадні напрамую залежыць ад... колькасьці прададзеных на гарадзенскім аўтарынку машын.**

19 чэрвеня, "улічваючы неабходнасьць у гандлі аўтамабілямі на тэрыторыі Горадні і цяжкасьці ў фінансаваньні фізкультурна-спартыўнага руху ў горадзе", гарвыканкам працягнуў тэрмін дзеяньня аўтарынку Гарадзенскага спарткамбінату "Нёман" да 1 ліпеня 1998 году. Грошы з прыбытку ад працы аўтарынку будуць выдаткоўвацца на будаўніцтва новых аўта- і рэчавага рынкаў у вёсцы Панямунь і на ўтрыманьне і разьвіцьцё спартыўнай базы горада.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## А Ж НЕ ПАМРОМ...

**У чэрвені гэтага году ў Лідзе адбылася, на першы погляд, непрыкметная, але ўсё ж значная падзея ў культурным жыцьці. Адзначыў дзесяцігоддзе існаваньня ансамбль "Народнай песьні" завода "Оптык", які носіць ганаровае званьне "Народны".**

На канцэрце, які прайшоў з вялікім посьпехам, прысутнічалі і прадстаўнікі абласных і мясцовых улад, а таксама ўдзельнікі мастацкай самадзейнасьці, прадпрыемстваў горада. Вельмі парадавалі ўсіх вядучыя канцэрту "Пан Быкоўскі" і "Лявоніха". Гучала беларуская песьня, трапны беларускі гумар, глядачы з цікавасьцю глядзелі на неўміручыя і такія знаёмыя беларускія танцы, што ў наш час (асабліва пасьля сумнавядомага рэферэндуму) вялікая рэдкасьць. Тым больш заслугоўваюць павагі і пахвалы кіраўнікі ансамбля Палаца культуры завода "Оптык" А.Лойка, В.Моўкіс, А.Шумскі, У.Пясецкі, Л.Барысевіч, якія ня здрадзілі свайму роднаму, беларускаму.

Дзякуй Богу, не перавяліся яшчэ сапраўдныя энтузіясты і патрыёты на нашай Бацькаўшчыне.

**Таіса ШЧАБЛЫКІНА.**

### ГАСТРОЛІ

Учора ў Горадні пачаліся гастролі Менскага драматычнага тэатра з горада Маладэчна. Сёньня а 19-ай гадзіне гарадзенцы могуць убачыць сьпектакль "Чорная нявеста" у выкананьні сталічных актораў.

• 13 ліпеня ў палацы культуры "Юнацтва" з праграмай "Планета радасьці" выступіць кіеўскі цырк ліліпутаў. Пачатак прадстаўленьняў у 15.00 і 18.30.

**В.ДРЭМА**

## ШЫНАЙ ПА "НЁМАНУ"



**...Бабруйскія "шыны" пакінулі на целе мёртвага "Нёмана" тры глыбокія раны. Другі раз у сезоне футбалісты гарадзенскай каманды прайгралі на сваім стадыёне з разгромным лікам 0-3. 10 ліпеня гарадзенскі скальп без сур'ёзнага супраціўленьня зьдзёрла бабруйская "Белшына".**

Ужо ў першым тайме сустрэчы госьці маглі зьняць усе пытаньні аб тым, хто сёньня ёсьць who. Аднойчы "Нёман" выратаваў арбітр, не заўважыўшы гульні рукой у сваёй штрафной Віктара Юйко. Але лагічная перавага "шыньнікаў" усё ж вылілася ў першым тайме ў гол, няхай сабе й даволі кур'ёзны. Уладзімір Путраш, які замкнуў пас з фланга, і сам доўга ня мог паверыць, што не было афсайду. Аднак арбітр паказаў на цэнтр, каб адразу ж адправіць каманды на перапынак.



У другой палове з пятай ці з дзесятай спробы вызначыўся лепшы гулец "Белшыны" Андрэй Хлебасолаў, які рэалізаваў пенальці. Трэці гол быў забіты пры поўнай бездапаможнасьці абаронцаў "Нёмана". Аляксандр Сакалоўскі пасьпеў ня толькі спакойна прабіць па варотах, але і дабіць парыраваны Уладзімірам Малышавым мяч.

У актыў "Нёмана", які працягнуў гэтым паражэньнем сваю прапіску на дне турнірнай табліцы, можна занесьці хіба прыгожы ўдар у перакладзіну Віктара Юйко і нядрэнную гульню ў шэрагу эпізодаў Уладзіміра Касюка.

Наступную сустрэчу гарадзенцы згуляюць 27 ліпеня з "Ведрычам". Як тут ня ўспомніць пра мінулагодні 0-9, прывезены з Рэчыцы...

***

Вызначыліся сапернікі гарадзенскіх камандў у 1/16 розыгрыша Кубку Беларусі па футболе. 24 ліпеня "Кардан Флайерс" будзе прымаць салігорскі "Шахцёр", слонімскі "Камунальнік" - магілёўскі "Днепр". Лідскі "Абутнік" у гасьцях сустрэнецца з "Кобрынам", а "Нёман" - з нясьвіжскім "Верасам".

**Вітаўт РУДНІК.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА**
**На здымку: Другі трэнер "Нёмана" Алег Севасьцянік.**

### БУРА ПРАЙШЛА КАЛЯ НАС

У ноч з 8-га на 9-ае ліпеня над дзесяцьцю ваяводзтвамі Польшчы пранеслася моцная бура. Стыхія нарабіла шмат шкоды. Загінула 2 чалавекі, некалькі было паранена. У Беластоцкім ваяводзтве, якое непасрэдна мяжуе з Гарадзеншчынай, адбыліся дзесяткі пажараў, выведзены з ужытку сотні трансфарматарных станцыяў, паламаныя дрэвы і павырываныя тэлеграфныя слупы.

**Д.К.**

### СЛУЖБА 02

**НЯДОЎГА МУЗЫКА ГРАЛА**

Нядоўга давялося пакатацца хлопцу з вёскі Старое сяло Зэльвенскага раёну на чужым матацыкле, які ўначы быў скрадзены з сарая жыхара райцэнтру. Ён дадумаўся сесьці за руль "Явы" у нецьвярозым стане і ў вёсцы Барадзічы ня справіўся з кіраваньнем, зьехаў у кювет і перакуліўся. Для гарадзенскай дзяўчыны, якая на сваё няшчасьце паехала разам з ім, гэта скончылася трагічна. Ад атрыманых траўмаў яна памерла на месцы.

**А.ДУК.**

## КРЫЖАВАНКА

*ГЕАГРАФІЯ*



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Горад у Забайкальлі. 8. Горад у Кыргызстане. 11. Жыхар заходнеэўрапейскай краіны. 12. Горад у Індыі. 14. Горад у Сярэднім Паволжы. 15. Возера ў Арменіі. 16. Горад ва Ўзбекістане. 19. Возера на выспе Шпіцберген. 20. Рака ў Паўднёва-Заходняй Афрыцы. 21. Возера на мяжы штатаў Юта і Айдаха. 24. Другая па даўжыні рака ў Эўропе. 25. Горная сістэма. 27. Сталіца Свазіленда. 28. Горад на поўначы Венгрыі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Сталіца Венесуэлы. 2. Абласны цэнтр у Казахстане. 3. Сталіца Кот-Д-Івуар. 4. Краіна на Блізкім Усходзе. 5. Паўвыспа на Балканах. 6. Горад у Босьніі. 9. Горад у Францыі. 10. Горад на Сахаліне. . 13. Возера ў Беларусі. 17. Сталіца сярэднеазіяцкай краіны. 18. Мыс на поўдні Афрыкі. 22. Рака ў Беларусі. 23. Возера ў Афрыцы. 26. Рака на Палярным Урале.

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул. Дамініканская, 1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14 (23.00-10.00)
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 2364. Наклад 11929
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 12.07.96
Рэдактар Мікола Маркевіч